«НАШАЕ ЖЫЦЬЦЁ» — грамадзкая газэта

# НАША ЖИЗНЬ

«НАША ЖИЗНЬ» — общественная газета

№7(31) июль 2012

# "СВЯТА БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ"

У ліпені актывісты грамадскай арганізацыі "Чысты свет" горада Оршы пад кіраўніцтвам **Алены Кучынскай** правялі музычна-літаратурнае свята пад назвай "Свята беларускай мовы" ў дзіцячым садку па завулку Горацкаму, дом 2, для 80-ці дзяцей дашкольнага ўзросту і іх бацькоў. Галоўнай мэтай мерапрыемства было выхаванне нацыянальнай самасвядомасці і развіццё цікавасці да роднай мовы.

На свяце гучалі беларускія песні і загадкі, прымаўкі, былі праведзены гульні. Дзеці таксама рыхтаваліся да свята: вывучылі вершы, песні, прыказкі на беларускай мове. Маленькія артысты падрыхтавалі і паказалі беларускую народнаю казку "Пшанічны каласок".

На свяце ўсім было цікава – і дарослым і малым. Дарослыя выказвалі словы падзякі, казалі, што мова беларуская – прыгожая і пявучая і яны будуць больш карыстацца беларускай мовай у жыцці. А галоўнае, будуць больш чытаць твораў дзецям на беларускай мове і вучыць дзяцей роднай мове.

Праблема, якая баліць для Алены Кучынскай: "На жаль, ёсць беларусы, якія ніколі не чулі беларускай мовы, яны проста не ведаюць пра яе. А самае





цікавае, што мы самі прымаем удзел у гадаванні такіх людзей. Хто яны? Усё даволі такі проста – гэта нашы дзеці. Калі размаўляеш з дзецьмі ў дзіцячым садку, большая палова з іх не ведаюць самых простых слоў па беларуску. Шмат маленькіх беларусаў мовы сваёй і ні чулі ніколі. А ад каго чуць? – Асноўнае пытанне. А сапраўды, ад каго чуць беларускую мову? З самага нараджэння, ўсё наваколле кажа на расейскай мове, калі першае слова не "маці" і "тата", а для ўсіх звыклыя "мама" і "папа", здаецца, нічога страшнага, нейкія іншыя літары наўрадці зменяць сэнс, але ж гэта пачатак знікнення беларускай мовы. Потым ідзе гэты самы дзіцячы садок, дзе абсалютна ўсюль гучыць расейская мова, калі радасць ад гульняў выказваецца на расейскай мове, калі першыя яскравыя моманты ў жыцці таксама акутаны мовай зусім іншай нацыі і так увесь час. Далей дзеці ідуць у школу, а што ўвогуле можна чакаць ад школы, ў якой ангельская мова мае больш гадзін за беларускую?! Пры чым выкладаюць гэтую беларускую мову, як нейкую замежную, а над тым як павінна гучаць беларуская мова, аб спецыфікі яе мягкасці і мілагучнасці ўвогуле ні хто не дбае.

Мэтанакіравана ідзе маральны прыгнёт і такім чынам вынішчэнне апошніх носьбітаў беларускай мовы, пачынаючы ад пачатку жыцця і сканчваючы глыбокай старасцю. Няма мовы ў нашых сэрцах, у нашым жыцці, ёй не дазваляюць быць. Мы і самі не жадаем, каб яна была, спасылаючыся на жыццёвыя цяжкасці, шукаем на кожным этапе свайго жыцця апраўданне сваёй адмовы ад яе. А потым у нас нараджаюцца дзеці і ўсё пачынаеісці па ўсім вядомаму колу, у якім няма месца беларускаму слову. Трэба змяніць сябе і мы зменім ўсё кола. Калі мы будзем развіваць у дзяцей цікавасць да вывучэння роднай мовы, выхоўваць любоў да мастацкага слова – тады і настане час, калі дзеці, пачуўшы беларускую



мову будуць казаць: - Наша мова, родная мова!"

# ЯРАСЛАЎ БЕРНІКОВІЧ ПРАПАНАВАЎ ДАПАМОГУ

На сваёй старонцы ў Фэйсбуку глыбоцкі апазіцыянер **Яраслаў Берніковіч** апублікаваў зварот да дзеячаў, якія прапануюць байкатаваць парламенцкія выбары, прызначаныя на 23 верасня.

Палітык прапануе прыхільнікам байкоту сканцэнтраваць свае высілкі на Докшыцкай акрузе №22 і такім чынам "спраўдзіць, як працуе байкот выбараў". Докшыцкая выбарчая акруга ахоплівае Глыбоцкі, Докшыцкі і Ушацкі раёны. Выбары тут могуць прайсці безальтэрнатыўнымі, бо вылучыўся пакуль што толькі праўладны кандыдат **Уладзімір Андрэйчанка**.

Берніковіч абяцае дапамагчы прыхільнікам байкоту офісам, аргтэхнікай і паперай, калі тыя возьмуцца за актыўную дзейнасць у Глыбокім.

Яраслаў Берніковіч з'яўляецца сябрам грамадзянскай кампаніі "Гавары праўду!", якая ўзялася ўдзельнічаць у выбарах. Будзе вылучацца кандыдатам у Наваполацку.

Ніжэй - зварот спадара Берніковіча:

"Шаноўныя прыхільніку байкоту будучых парламенцкіх выбараў!

Звяртаюся да вас, хоць не падзяляю вашых меркаванняў: трэці раз іду на парламенцкія выбары, хаця зноў без усялякай надзеі. "Здымацца" таксма не плану́ю, бо хачу дагледзець гэтае "кіно" да самага канца.

Ужо не першую выбарчую кампанію я слухаю размовы пра тое, што байкот – гэта адзіна слушная пазіцыя ў дачыненні да выбараў. Але ніводнага разу не бачыў, каб нехта сапраўды ўзяўся за ажыццяўленне гэтай стратэгіі. Далей пустазвонства звычайна справа не йдзе. Таму прапаную ўсім прыхільнікам байкоту прадэманстраваць гэтую ідэю на справе. Магчыма, вам нават удасца пераканаць мяне, што я глыбока памыляюся, увязаўшыся ў чарговую выбарчую кампанію.

Прапанова наступная: у Докшыцкай выбарчай акрузе №22, на тэрыторыі якой я жыву, зарэгістраваў сваю ініцыятыўную групу Уладзімір Андрэйчанка. Гэта старшыня Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусі, які балатуецца ў Парламент ужо на другі тэрмін.

Спадар Андрэйчанка – чалавек глыбока пенсійнага ўзросту, да тагож не мясцовы. Адпаведна, які асаблівага даверу і прыхільнасці тутэйшых жыхароў не мае. А самае галоўнае – гэта безальтэрнатыўная кандыдатура. Ён балатуецца адзін. Так што няма верагоднасці, што нейкі дэмакратычны кандыдат "пацягне" людзей на выбарчыя ўчасткі.

Скажу больш: заходняя Віцебшчына – гэта самы зручны рэгіён, дзе можна схіліць людзей да байкоту. Паводле вашых жа, шаноўныя апаненты, звестак, у нашых краях самыя моцныя структуры прыхільнікаў партыі БХД, І менавіта тут найбольш актыўна падтрымлівалі Зянона Пазьняка, калі ён балатаваўся на прэзідэнцкіх выбарах, так што і прыхільнікаў Кансэрватыўна-Хрысціянскай Партыі БНФ, якая таксама выступае за байкот, тут мусіць быць багата.

Цяпер крыху статыстыкі: Докшыцкая выбарчая акруга №22 – гэта 83 участкі для галасавання ў Докшыцкім, Глыбоцкім і Вушацкім раёнах. Таму пажаданым было б уключэнне 83-х чалавек, перакананых у неабходнасці байкоту, у кожную участковую камісію. Калі гэта немагчыма, то больш рэальна зарэгістраваць 83 назіральнікі, каб яны працавалі на кожным участку. І , канешне, падрыхтаваць як мага большую колькасць агітатараў, якія данясуць ідэю байкоту выбараў да мясцовых жыхароў.

Вось такім чынам, на адной асобна ўзятай тэрыторыі можна спраўдзіць, як працуе "байкот выбараў", які вы прапануеце. Са свайго боку абяцаю не застацца ў баку, калі ўбачу, што ад словаў прыхільнікі байкоту нарэшце перайшлі да справы: прадастаўлю магчымасць карыстацца офісам маёй фірмы на час агітацыйнай кампаніі, а таксама ўсімі наяўнымі сродкамі сувязі – тэлефонам і інтэрнэтам.

З павагай – старшыня раённай суполкі Партыі БНФ, актывіст кампаніі "Гавары праўду"

Яраслаў Берніковіч"

http://westki.info/artykuly/13518/yaraslau-bernikovich-prapanavau-dapamogu-pryhilnikam-baykotu

Кастусь Шыталь

# ЯК СТАЦЬ НАЗІРАЛЬНІКАМ НА ВЫБАРАХ Ў БЕЛАРУСІ?

**Праект «Назіранне за выбарамі: тэорыя і практыка» запрашае актыўных беларусаў да назірання за парламенцкімі выбарамі, што пройдуць у верасні 2012 году.**

Стаць назіральнікам на беларускіх парламенцкіх выбарах вельмі проста. Паводле закона, любы грамадзянін Беларусі, якому ўжо ёсць 18 гадоў, мае права ўдзельнічаць у кантролі за выбарамі. Назіраць можна ў любой кропцы краіны ў незалежнасці ад месца рэгістрацыі.

«Назіранне за выбарамі дае магчымасць кожнаму на свае вочы ўбачаць, як адбываюцца выбары ў Беларусі, — кажа кіраўніца праекту „Назіранне за выбарамі: тэорыя і практыка‟ **Анастасія Матчанка**. — Назіранне можа даць вельмі шмат не толькі для разумення функцыянавання дзяржавы, але і ісці на карысць усяго грамадства. Я раю ўсім, хто збіраецца назіраць падчас гэтай кампаніі, азнаёміцца з заканадаўствам, найперш выбарчым Кодэксам і адпаведнымі пастановамі ЦВК, каб быць больш падрыхтаванымі і назіраць з улікам існых правіл і працэдур. Уся інфармацыя аб іх будзе збірацца на сайце www.eotp.info».

Праект «Назіранне за выбарамі: тэорыя і практыка» дапаможа кожнаму, хто вырашыў стаць назіральнікам за выбарамі. Для гэтага дастаткова запоўніць невялікую анкету на сайце праекту (www.eotp.info/application) і быць гатовым правесці на ўчастку для галасавання як мінімум 13 гадзін у дзень выбараў.

**«НАША ЖИЗНЬ»** - общественная газета. Издатель - коллектив редакции. Выходит нерегулярно. Тираж **299** экземпляров. Редактор - **Христафор Желяпов**. Вёрстка - **Сергей Солидный**. Напечатана на частном оборудовании на свои средства и с помощью единомышленников.
**http://kamunikat.org/naszaje_zyccio.html**

# НОВЫЯ ВЫДАННІ КРАЯЗНАЎЦАЎ ПАСТАЎШЧЫНЫ

Не шмат прайшло часу, як у Паставах выйшлі ў свет тры невялікія краязнаўчыя кніжачкі, у якіх разглядаюцца даволі актуальныя мясцовыя гістарычныя і тапанімічныя праблемы. Аўтарам усіх выданняў з'яўляецца вядомы пісьменнік і краязнаўца, выкладчык Пастаўскай раённай гімназіі **Ігар Пракаповіч**.

Адметныя кнігі тым, што суаўтарамі настаўніка ў іх выступаюць школьнікі. Адна з кніг – "Назвы вуліц горада Паставы" – напісана разам з **Віталіем Літвіновічам**, вучнем 10 класа СШ № 1 горада Паставы, які ўжо мае вопыт навукова-даследчай працы. На рэспубліканскім конкурсе навуковых работ школьнікаў у 2011 годзе ён атрымаў дыплом III ступені за даследаванне "Геаграфічны аналіз гідраграфічнай сеткі і водападзелаў паўночна-заходняй часткі Беларусі з мэтай вызначэння старадаўніх водных гандлёвых шляхоў і волакаў". Зараз працуе над тэмай "Гісторыка-геаграфічны і семантычны аналіз гадонімаў і агаронімаў горада Паставы", матэрыялы якой і склалі аснову выдання.

У кнізе ў гістарычным ракурсе разглядаецца працэс утварэння і змянення назваў вуліц і плошчаў горада Паставы на падставе існуючых планаў і схем, даецца тлумачэнне іх сэнсавага значэння.

Другое выданне мае назву "Храналогія гісторыі Пастаўскага раёна. Каляндар памятных дат 2012-2021". Суаўтарам яе з'яўляецца вучань 8-га класа Пастаўскай раённай гімназіі **Павел Баразна**, удзельнік двух раённых навукова-практычных канферэнцый, на якіх прадстаўляў даклады «Гісторыя каталіцкай царквы ў Беларусі» і «Беларускія сацыяльныя сеткі» (дыплом II ступені, 2012 г.); прызёр раённых алімпіяд па англійскай мове (I месца, 2011 г.), біялогіі (3 месца, 2012 г.). У збіранні матэрыялаў для храналогіі бралі ўдзел **Павел Гукаў, Дар'я Гутар, Кацярына Парангоўская**. Дзяўчаты прадстаўлялі праект на раённай навукова-практычнай канферэнцыі школьнікаў вясной 2012 г.

Гэта кніга - першае найбольш поўнае выданне храналогіі гісторыі Пастаўшчыны, у якім сабраны адметныя даты, звязаныя з падзеямі і асобамі цікавага і адметнага куточка паўночна-заходняй Беларусі. Таксама падаецца каляндар памятных дат на 2012-2021 гады, які для Пастаўскага раёна складзены ўпершыню.

Трэцяя кніга прысвечана падзеям I сусветнай вайны на Пастаўшчыне. Напісана яна І. Пракаповічам разам з дачкой Юліяй, студэнткай факультэта маркетынга, менеджмента і прадпрымальніцтва БНТУ, якая ў школьныя гады актыўна займалася краязнаўствам, збірала і апрацоўвала матэрыялы па тэмах "Валуны Пастаўшчыны", "Назвы вёсак Пастаўскага раёна", "I сусветная вайна на Пастаўшчыне". На міжнароднай навуковай канферэнцыі (Паставы, 2008 г.) выступала з дакладам "Магчымасці выкарыстання помнікаў I сусветнай вайны ў турыстычных мэтах". У кнізе разглядаюцца памяткі вайны, якія яшчэ захаваліся на былой лініі фронту і якія былі выяўлены вучнямі ў час краязнаўчых экспедыцый. Падаецца шмат ілюстрацый, у тым ліку і тагачасных фотаздымкаў германскіх фатографааў.

Кнігі падрыхтаваны да выдання сябрамі краязнаўчага таварыства імя К. Тызенгаўза і пастаўскай раённай арганізацыяй Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны, выдадзены ў Пастаўскай друкарні.

Наталля Пракаповіч

# КОЛЬКІ КАШТУЕ ПРЫБРАЦЦА Ў ГАРАДКУ?

Дэмакратычны актывіст **Леанід Аўтухоў** пацікавіўся ў мясцовай камунальнай службы, міліцыі і мэдыкаў, колькі трэба будзе заплаціць за паслугі адмыслоўцаў, каб заключыць дамову на абслугоўваньне масавай акцыі.

Камунальнікі адказалі, што толькі за іхныя паслугі заяўнікам масавай акцыі трэба будзе аддаць 827 688 рублёў.

Леанід Аўтухоў, актывіст «Гавары праўду», старшыня мясцовай суполкі партыі БНФ, хацеў правесьці шэсьце і мітынг з удзелам 50-ці чалавек 22 чэрвеня гэтага году.

«Я меркаваў, што гэта будуць мерапрыемствы антыфашыстоўскай скіраванасьці, якраз да ўгодкаў пачатку Вялікай Айчыннай вайны. Зьвярнуўся зь лістамі, каб мне падлічылі, колькі ж трэба будзе заплаціць, калі афармляць дамовы, як патрабуе заканадаўства. Лічбы, як кажуць, уражваюць! Гарадоцкія камунальнікі папярэдне ацэньваюць свае паслугі па доглядзе тэрыторыі пасьля шэсьця і мітынгу ў 827 688 рублёў», — паведаміў Аўтухоў. «Пры тым, што мерапрыемствы будуць працягвацца адну гадзіну і колькасьць удзельнікаў — да 50 чалавек.

Эканаміст Гарадоцкага прадпрыемства цеплавых і камунальных сетак палічыў, што на плошчы амаль паўтара гектара мітынгоўцы ўтвораць сьмецьця на 0,75 кубічнага мэтра, а біяпрыбіральня будзе транспартавацца дзьве гадзіны на адлегласьць 20 кілямэтраў».

Гарадоцкі актывіст адзначае, што гэта кошт толькі адной са службаў. Бо першы намесьнік начальніка Гарадоцкага РАУС абмежаваўся толькі паведамленьнем пра тое, што дамова на выкананьне паслугаў будзе падрыхтавана пасьля атрыманьня дазволу райвыканкаму.

«Прычым кошт паслугі будзе залежаць ад „рангу" міліцыянтаў, задзейнічаных у ахове. Бо заробкі, прыкладам, маёра і сяржанта істотна адрозьніваюцца. Так мне патлумачылі ў РАУС», — удакладняе спадар Аўтухоў.

Пакуль актывіст яшчэ не атрымаў адказу з Гарадоцкай райбальніцы. Ён мяркуе, што паслугі мэдычнай установы могуць аказацца яшчэ даражэйшымі, чым у камунальнікаў, калі палічаць, што ўдзельнікаў шэсьця мусіць эскартаваць машына хуткай дапамогі.

Леанід Аўтухоў лічыць, што кошты на абслугоўваньне мерапрыемства завышаюцца знарок, каб незаможны шараговы грамадзянін ня меў магчымасьці арганізоўваць нейкія пратэстныя акцыі. Але мяркуе, што ніякія кошты не спыняць актывістаў у іх жаданні выказаць свае думкі ў грамадскіх месцах.

Радыё Свабода

# ЗА ЗДАРОЎЕМ - У ІРЛАНДЫЮ

Каля 20 год я займаюся гэтай справай - аздараўленнем дзяцей за мяжой, - расказвае старшыня Віцебскай абласной арганізацыі БСДП **Валянціна Болбат**.— Быў час, калі дзеці з Верхнядзвіншчыны адпачывала ў ЗША, Англіі, Швецыі, Галандыі…

На сёння з ранейшых партнёрскіх стасункаў засталася Ірландыя, прадстаўнікі дабрачынных фондаў якой неаднаразова бывалі у гасцях у нашым Верхнядзвінскім раёне.

А ў складзе групаў, што кожнае лета ад'язджаюць на аздараўленне ў гэту гасцінную краіну, дзеці не толькі з Верхнядзвінскага раёна, але і з суседніх раёнаў вобласці.

У свой час жаночая арганізацыя, якую я ўзначальвала, штогод атрымоўвала толькі гуманітарнай дапамогі на кошты больш за 200 тысяч еўра. Зараз гэтыя кантакты страчаны, …і гэтаму ёсць тлумачэнне. А вось дзеці штолета на месяц, а то і болей ад'язджаюць па здароўе ў Ірландыю. Звычайна, у складзе групаў дзеткі з маламаёмасных, няпоўных, шматдзетных, прыёмных семьяў, выхаванцы дамоў сямейнага тыпу.

Учора вярнулася чарговая група з адпачынку. Колькі радасці, цудоўных успамінаў да наступнага лета давялося наслухацца!

А мы чакаем у бліжэйшы час дарагіх гасцей з Прадстаўніцтва Ірландскага фонду на Верхнядзвіншчыне.

На здымку:Бабуля і дзядуля Сінкевічы сустракаюць унучку Лаліту з адпачынку. Бабуля стала апякункай для сваёй унучкі.

http://bsdp.org/?q=be/node/11608

# ДАПАМОГА ПРЫЙШЛА З БЕЛЬГІІ…

**Гэта першая спроба ўсталявання кантактаў з нашымі землякі з замежжа, - гаворыць старшыня Віцебскай абласной арганізацыі БСДП Валянціна Болбат.**

Кажуць, што няма нічога выпадковага, бо выпадковасць — непазнаная заканамернасць. Відаць, была пэўная заканамернасць ў тым, што дачка актыўнага сябра партыі Антона Ясіновіча з Наваполацку, **Вікторыя Ясіновіч**, была залічана на праграму Каліноўскага. А скончыўшы яе, палічыла неабходным за мяжой збіраць каля сябе тых людзей, якім неабыякавы лёс беларусаў.

Яе тэлефанаванне было крыху нечаканым, - працягвае Валянціна Болбат.— Мы паспрабавалі вызначыцца з той катэгорыяй людзей, якім найперш патрэбна дапамога. І дамовіліся, што пачнем працу з людзьмі, хворымі на цукровы дыябет. А такіх у Верхнядзвінскім раёне каля паўтысячы чалавек, сярод якіх ёсць і дзеці.

І вось Вікторыя на Верхнядзвіншчыне з першымі падарункамі ад беларусаў Бельгіі — тэст-палоскамі для глюкометраў - апаратаў для вызначэння цукру ў крыві хворага чалавека.

Яе сустракаў намеснік старшыні Верхнядзвінскага выканкама **У.Я.Якаўлеў**, супрацоўнікі раённай бальніцы, якія працуюць з гэтай катэгорыяй хворых людзей. Бяседа доўжылася амаль дзве гадзіны, дасягнуты пэўныя дамоўленасці на працяг працы.

Зараз толькі трэба вызначыць некаторыя працэдурныя пытанні, якімі мы і займаемся, - кажа В.Болбат.

А тэст-палоскі для глюкометра "Акучэк", вельмі нятанныя па кошце, ужо атрымалі хворыя, якім яны неабходныя ў першую чаргу. Сярод іх — **Надзея Заракоўская**, дзяўчынка, якая выхоўваецца ў доме сямейнага тыпу і ў якой вельмі складаная форма гэтага захворвання.

http://bsdp.org

# ДЭМАКРАТЫ З БЕЛЬГІІ Ў ГАСЦЯХ НА ВІЦЕБШЧЫНЕ

**Гэта сустрэча адбылася дзякуючы намаганням сябраў партыі з Наваполацкай гарадской арганізацыі, - паведаміла кіраўнік абласной партыйнай структуры Валянціна Болбат.**

Спадар Бернар, таксама сацыял-дэмакрат, ўпершыню наведаў Беларусь і захапіўся яе прыгажосцю. Сам ён—настаўнік французскай мовы ў адным з гарадкоў Бельгіі. Займаецца актыўна грамадскімі справамі і ў яго ёсць цікавасць да Беларусі.

Бернар кантактуе з беларусамі ў Бельгіі, дапамагае некаторым з іх вывучаць французскую мову, - расказвае Вікторыя Ясіновіч, якая сама бярэ ў яго ўрокі французскай мовы. Шмат ў чым дапамагае ёй ў грамадскай дзейнасці.

Інтарэс Вікторыі - гэта людзі з абмежаванымі магчымасцямі, з якімі яна працуе ў Бельгіі пэўны час.

Яны даюць мне любоў і спагаду, - гаворыць яна. - І падчас сустрэчы ў Верхнядзвінску мы дамовіліся аб прыездзе невялікай дэлегацыі з гэтага раёну ў складзе прадстаўнікоў улады, медыкаў, сацыяльных работнікаў, якія працуюць з такой катэгорыяй насельніцтва, каб азнаёміцца з тым, як гэта робіцца ў Бельгіі.

http://bsdp.org